*Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 38 (4393)**

17 мая 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

## Ловля блох…

У гаишника родилась двойня. Вызывает его начальник и говорит: «Денег лишних у меня нет, поэтому финансово не помогу. Но вот тебе знак «Ограничение скорости 40 км», ставь где угодно и сам зарабатывай».

Описанная история, как вы поняли, известный анекдот. Но у нас умеют анекдот сделать былью. Белорусским правоохранителям дали даже не «блатной» дорожный знак, им дали целый закон. И они теперь зарабатывают не смущаясь…

Гродненец Андрей Головенко еще в сентябре 2014 года перепостил на своей страничке в соцсетях клип немецкой группы Rammstein. Группа известная, даже в Минск на гастроли приезжала. И клип Головенко разместил официальный, не какое-то там подпольное видео. Но через четыре с половиной года (!) белорусский Следственный комитет усмотрел в клипе нечто этакое, назначил экспертизу, возбудил уголовное дело, потом – административное. В итоге гродненца через 4,5 года наказали штрафом 1275 рублей. Чем не заработок?!

Житель Гомеля Михаил Казачок два года назад разместил на своей странице в «Фейсбуке» информационный материал под названием «Зло кланіравалася, каб сябраваць сам-насам», проиллюстрировав его гербом нацистской Германии. В кино этот герб не показывают? В учебниках про войну мы таких фотографий не видели? И показывают, и видели. Однако гомельчанина за распространение экстремистских материалов в апреле, через два года, присудили к штрафу в 10 базовых. Тоже копейка! Причем судили заочно, даже не выслушав.

Или вопиющая история, которая совсем недавно случилась с IT-консультантом Глебом Рубановым. Его посреди ночи задержали, на 30 часов оставили в камере, потом выдали повестку в суд. За что? За то, что кто-то под его записью в «Фейсбуке» оставил свой комментарий с аббревиатурой, которую посчитали экстремистской. В итоге – штраф 40 базовых, или в эквиваленте 500 долларов.

Вот вы распознаете в наборе букв намек на экстремизм? Я, например, не распознаю. Да и времени отслеживать все комментарии у нормального человека просто нет. Надо вообще ничем не заниматься и только сидеть в интернете, чтобы все читать, отслеживать, следить за записями и чужими репликами недельной, месячной, годичной давности. Кто вообще помнит все свои посты и комментарии в соцсетях, сделанные год, два, пять лет назад? Оказывается, надо следить и надо помнить.

Правоохранители сейчас мониторят соцсети, усиленно бдят за тем, кто и что публикует или раньше публиковал. Десятки и даже сотни белорусов уже попали в расставленные ловушки. Дела возбуждаются массово. Хотя все происходящее не имеет никакого отношения ни к борьбе с экстремизмом, ни к борьбе с торговлей людьми (пикантные фото и видео, напомню, подпадают под порнографию, даже если они ваши приватные), ни даже к здравому смыслу.

Я даже сказала бы, наоборот: правоохранители зарабатывают деньги на штрафах за надуманные правонарушения, однако одновременно несут в массы информацию о запретном и экстремистском.

Сколько человек после новости о возбуждении дела просмотрели запрещенный клип Rammstein, заинтересовавшись, что же в нем такого-этакого?! Не сомневаюсь, что десятки тысяч.

Сколько человек заинтересовались, что же кроется за таинственными аббревиатурами, которые столь ненавистны МВД? Тысячи!

Настойчивая погоня правоохранителей за всем анархистским только популяризирует соответствующие идеи, а упоминание про запрет только привлекает внимание. Тут ни к гадалке ходить не нужно, ни к мудрым аналитикам.

Вопрос – зачем? Зачем они это делают?

В стране уже побеждены коррупция и преступность, и правоохранителям нечем заняться, поэтому они от безделья отлавливают блох на огромных просторах интернета?

Стране так нужны деньги, что уже не знают, к чему прицепиться, чтобы дополнительные штрафы собрать?

Все вышеупомянутые дела – погоня за статистикой, потому что каждое такое дело в сводках выглядит как раскрытие серьезного преступления в суперважной сфере – борьбе с экстремизмом и торговлей людьми?

Запугивание?

Дурость?

Вредительство?

Я выбираю последний вариант: вредительство. Потому что даже самую лучшую идею можно превратить в абсурд. Если правоохранительная система начинает цепляться к людям, как пьяный к столбу, то никакими деньгами такую ситуацию не оправдаешь. Потому что это вызывает не страх. Это вызывает ненависть, раздражение и брезгливость. Ко всем, кто олицетворяет собой понятие «власть».

ПАМЯЦЬ

## Ніл ГІЛЕВІЧ заслужыў дзяржаўнае ўшанаванне

*Адкрыты ліст старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта **Анатолю СІВАКУ** і старшыні Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў **Васілю ПАНАСЮКУ**.*




Паважаныя Анатоль Аляксандравіч і Васіль Васільевіч!

Тры гады мінула з таго дня, як не стала Народнага паэта Беларусі, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча Ніла Гілевіча. Заслугі яго перад нашай дзяржавай бясспрэчныя. У 1985–1995 гадах ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі, членам Прэзідыума ВС Рэспублікі Беларусь, з'яўляўся старшынёй Пастаяннай камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Шмат гадоў узначальваў Саюз пісьменнікаў Беларусі, ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

На творчым рахунку Ніла Гілевіча – больш за 100 кніг паэзіі, публіцыстыкі, перакладаў са славянскіх моў. Незадоўга да смерці выйшаў у свет Збор твораў пісьменніка ў 23 тамах. Яго творы заслужана ўвайшлі ў залаты фонд беларускай літаратуры, вывучаюцца ў школьнай і ўніверсітэцкай праграмах. На вершы Ніла Гілевіча айчыннымі кампазітарамі напісаны папулярныя песні "Вы шуміце, бярозы", "Шлях да Беларусі", "Я хаджу закаханы", "Жаўраначка", "Палыновая ростань" ды іншыя.

За плённую літаратурную і грамадскую дзейнасць Ніл Сымонавіч быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Янкі Купалы і Міжнароднай прэміяй імя Хрысты Боцева, узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Дружбы народаў, медалём Францішка Скарыны, балгарскім ордэнам "Кірыл і Мяфодзій", ордэнам Югаслаўскай Зоркі, украінскім ордэнам Яраслава Мудрага. У 1991 годзе яму было нададзена званне Народны паэт Беларусі.

Настаў час ушанаваць памяць Ніла Сымонавіча Гілевіча ў Мінску. Апошнія 50 гадоў ён пражыў у доме №36 па вуліцы Карла Маркса, што знаходзіцца ў самым цэнтры беларускай сталіцы. Просім Вас разгледзець пытанне аб наданні згаданай вуліцы імя Ніла Гілевіча і ўсталяванні на ягоным доме мемарыяльнай шыльды.

Безумоўна, вялікі патрыёт Айчыны, Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч заслужыў годнае дзяржаўнае ўшанаванне ягонай памяці.

**Зінаіда БАНДАРЭНКА, народная артыстка Беларусі,**
**Гаўрыла ГАРЭЦКІ, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі,**
**Анатоль ВЯРЦІНСКІ, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ (САЧАНКА), старшыня ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў",**
**Рыгор СІТНІЦА, старшыня ГА "Саюз мастакоў Беларусі",**
**Яўген СТАСЕВІЧ, кандыдат эканамічных навук.**

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## В поле зрения

*Почти 90% информации человек получает с помощью зрения. Но с годами из-за условий работы, возраста, наследственности глаза начинают хуже видеть.*



**Как защитить зрение и предупредить глазные болезни?**

**Как часто надо проходить осмотр у офтальмолога?**

**Как лечить воспалительные заболевания глаз?**

**Что делать, если поранили глаз?**

**Можно ли сделать амбулаторно операцию на веках (холязионы, вывороты, завороты век)?**

**Какие сегодня есть современные методы коррекции близорукости и дальнозоркости?**

На эти и многие другие вопросы читателей «Народной Воли» ответит врач-офтальмолог высшей категории медицинского центра «ЛОДЭ» **Ирина Станиславовна Харланович.**

Звоните **СЕГОДНЯ, 17 мая, с 12 до 14.00 по телефону 328-68-41**.

Присылайте свои вопросы заранее по почте или на электронный адрес: **nvonlineinfo@gmail.com** с пометкой **«Прямая линия».**

## З прызначэннем!

Учора Аляксандр Лукашэнка прызначыў:

**КІЛЬЧЭЎСКАГА Аляксандра Уладзіміравіча** – намеснікам старшыні Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі;

**ІВАНЦА Андрэя Іванавіча** – галоўным вучоным сакратаром Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі;

**ФІСЕНКУ Ігара Валянцінавіча** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Княстве Манака і Партугальскай Рэспубліцы па сумяшчальніцтве.

Прэзідэнт таксама даў згоду на прызначэнне:

**КУЛАКА Віталя Уладзіміравіча** – старшынёй Жабінкаўскага райвыканкама;

**БІСУНА Юрыя Юр'евіча** – старшынёй Пружанскага райвыканкама;

**ТКАЧУКА Анатоля Уладзіміравіча** – старшынёй Іванаўскага райвыканкама;

**ЛУГІНОЙ Таццяны Аляксееўны** – старшынёй Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вытворчасці і рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці;

**КУШНАРЭНКІ Аляксея Іванавіча** – генеральным дырэктарам дзяржаўнага вытворчага аб'яднання па паліве і газіфікацыі «Белпалівагаз»;

**ІВАНКОВІЧА Валерыя Валер'евіча** – генеральным дырэктарам ААТ «Мінскі аўтамабільны завод» – кіруючая кампанія холдынга «БЕЛАЎТАМАЗ»;

**ІВАНЬКОВА Рыгора Іванавіча** – генеральным дырэктарам ААТ «Кіруючая кампанія холдынга «Лідсельмаш»;

**ДАЎГАЛЫ Аляксандра Станіслававіча** – генеральным дырэктарам рэспубліканскага вытворча-гандлёвага ўнітарнага прадпрыемства «Кіруючая кампанія холдынга «Беларуская цэментная кампанія»;

**ШУЦІЛІНА Вячаслава Юр'евіча** – рэктарам установы адукацыі «Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт»;

**ВЕЛІКАНАВА Віталя Віктаравіча** – рэктарам установы адукацыі «Беларуская дзяржаўная ордэнаў Кастрычніцкай рэвалюцыі і Працоўнага Чырвонага Сцяга сельскагаспадарчая акадэмія»;

**МАХАНЬКО Вадзіма Леанідавіча** – генеральным дырэктарам рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па бульбаводстве і плодаагародніцтве»;

**КАСЦЮКОВА Ігара Анатольевіча** – першым намеснікам міністра архітэктуры і будаўніцтва;

**АНАНІЧА Аляксея Іванавіча** – намеснікам міністра архітэктуры і будаўніцтва;

**ГРЫБА Міхаіла Вячаслававіча** – членам Віцебскага аблвыканкама;

**ШЫКА Кірыла Іванавіча** – членам Мінскага аблвыканкама;

**КУБРАКОВА Івана Уладзіміравіча** – членам Мінскага гарвыканкама.

НУ І НУ!

## Даішнікі затрымалі паўжывога вадзіцеля

*У крыві 30-гадовага жыхара Баранавічаў было 3,6 (!) праміле алкаголю.*

У Кобрынскім раёне супрацоўнік ДАІ спыніў фуру, вадзіцель якой, як аказалася, быў моцна п'яны.

Санкцыя артыкула, па якім склалі пратакол, прадугледжвае штраф у памеры ад 50 да 100 базавых велічынь і пазбаўленне права кіравання тэрмінам на тры гады.

ШТРИХ

## Сукало ушел – Кильчевский пришел

Итак, заместителем председателя Президиума Национальной академии наук Беларуси назначен 63-летний ***Александр Кильчевский***.

До этого он 5 лет работал в должности главного ученого секретаря НАН. В 2017 году был избран академиком. Тогда выборы в Академию наук многие ученые назвали сенсационными. Вакантными были 11 мест академиков, а избрали только 5. Меньше половины! Причем за бортом оказались многие известные ученые. Но Александр Кильчевский был в пятерке счастливчиков. И вот новая ступенька в трудовой биографии – назначение на пост заместителя председателя президиума НАН.

К слову, у руководителя Академии наук четыре заместителя. Александр Кильчевский назначен на место **Александра Сукало**, который, по некоторой информации, покинул этот пост по состоянию здоровья.

Что касается Александра Кильчевского, то у него немалый опыт работы на руководящих должностях. В 1977 году он окончил Белорусскую государственную сельскохозяйственную академию, куда через год вернулся ассистентом кафедры плодоовощеводства. Еще через 11 лет возглавил кафедру сельскохозяйственной биотехнологии и экологии БСХА. С 2004-го по 2014 год занимал должность директора Института генетики и цитологии НАН Беларуси.

Любопытно и то, что теперь в руководящем аппарате НАН будет три аграрника. Нынешний глава академии **Владимир Гусаков** – ученый в области аграрной экономики. Еще один его заместитель – **Петр Казакевич** – занимается исследовательской работой по обработке почвы и посева. Оба они, как и Кильчевский, – выпускники Белорусской государственной сельскохозяйственной академии. Причем Кильческий и Казакевич окончили этот вуз в 1977-м, а Гусаков годом ранее – в 1976 году.

Может, теперь дела в сельском хозяйстве страны улучшатся? Официальная статистика свидетельствует о том, что аграрный сектор Беларуси не просто переживает кризис – он в глубокой стагнации. По данным Белстата за прошлый год, доля убыточных (без поддержки) предприятий АПК страны выросла до 63,5%, кредиторская задолженность – до 7,5 миллиарда рублей!

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

В ТЕМУ

### Победитель олимпиад, мастер спорта, отец троих детей

После повышения Александра Кильчевского пост ученого секретаря Академии наук занял **Андрей Иванец,** который ранее был заместителем директора по научной работе Института общей и неорганической химии.

Андрею Иванцу 35 лет, но он уже доктор химических наук. За 12 лет написал две диссертации – кандидатскую (в 25 лет) и докторскую. Молодой ученый дважды становился лауреатом Специального фонда президента по поддержке талантливой молодежи, лауреатом премии Национальной академии наук Беларуси и Фонда поддержки образования и науки (Алферовского фонда). В одном из своих интервью Иванец рассказывал об увлечении химией, которая стала его профессией: «*Химией увлекся еще в школе, что побудило поступить в Лицей БГУ. После абсолютного первого места на республиканской олимпиаде и «бронзы» на международной олимпиаде стал без экзаменов студентом химфака БГУ. Однако к 4-му курсу желание заниматься наукой практически испарилось. Кто знает, где бы я сейчас был, не встреть на своем пути доктора химических наук профессора Владимира Васильевича Панькова. … В Институте общей и неорганической химии второй раз улыбнулась удача: попал в команду к члену-корреспонденту НАН Беларуси Анатолию Ивановичу Ратько и поверил: здесь я могу развиваться как творческая личность*».

Помимо науки у Андрея Иванца есть еще одно серьезное увлечение – пауэрлифтинг. Это силовой вид спорта, троеборье, которое включает становую тягу, жим лежа и приседания со штангой. Доктор химических наук Андрей Иванец – мастер спорта международного класса, первый абсолютный чемпион Беларуси по классическому пауэрлифтингу. А еще он отец троих детей. Старшему *Ефиму – четыре года, Елизару – два, а в прошлом году в семье родилась Ариша. «Основная нагрузка, конечно, на жене Кристине, – рассказывал в интервью молодой ученый. – Но выходные стараемся проводить максимально интересно, чтобы дети не забывали и о моем присутствии в их жизни. Приучаю сыновей к мысли: если чего-то хочешь, нужно приложить усилия».*

ЗИГЗАГИ

## Из «Амкодора» – на МАЗ

Вчера гендиректором ОАО «Минский автомобильный завод» назначен **Валерий Иванкович**. Последняя его должность – гендиректор ОАО «АМКОДОР».

Валерий Иванкович родился в Новополоцке в простой рабочей семье. После окончания Белорусского политехнического института Иванкович вернулся в родной город, стал работать на ОАО «Полимир». Прошел там всю карьерную лестницу – от мастера до коммерческого директора. Затем возглавлял УП «Белорусский нефтяной торговый дом», оттуда перешел в ОАО «БелавтоМАЗ», где работал пять лет.

Когда Валерий Иванкович был гендиректором Белорусского нефтяного торгового дома, прошел слух о его задержании. Сообщалось, что он был одним из тех, кого задержали вместе с тогдашним председателем концерна «Белнефтехим» **Александром Боровским**. Правда, официальных сообщений о его задержании не было. Обвинения ему не предъявлялись. Сам Валерий Валерьевич с журналистами эту тему никогда публично не обсуждал.

**Галина РУТ.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Аўгустоўскі канал

*12 мая адкрыўся чарговы турыстычны сезон на Аўгустоўскім канале. Летась яго наведалі 120 тысяч чалавек, прычым 70 працэнтаў з іх – бязвізавыя замежныя турысты. Сёлета чакаецца яшчэ большы наплыў.*

Аўгустоўскі канал злучае басейны Віслы і Нёмана, агульная яго даўжыня 102,5 кіламетра, з якіх амаль 24 знаходзяцца на тэрыторыі Гродзенскай вобласці.

На рэстаўрацыю беларускай часткі канала было затрачана звыш 15 мільёнаў долараў, яго эксплуатацыя пачалася ў 2006 годзе. Спачатку аматары міжнароднага воднага турызму маглі сплаўляцца толькі на байдарках, а летась з адкрыццём пагранічнага пункта пропуску «Лясная – Рудаўка» з'явілася магчымасць перасякаць граніцу з Польшчай і на маламерных судах, а таксама пешшу і на роварах, што значна памножыла колькасць жадаючых наведаць гэтыя мясціны.



## Што прыцягвае турыстаў

Экскурсавод **Ігар Лапеха** заўважае, што большасць турыстаў з Беларусі і з-за мяжы, якія наведваюць Аўгустоўскі канал, захапляюцца ягонай аўтэнтычнай прыродай, прыгожымі краявідамі, шматлікай фаўнай і флорай.

Размаўляю з турыстамі з Польшчы і яшчэ раз пераконваюся ў гэтым. Пані Юстына і пан Марэк прыплылі на байдарках у складзе групы з польскага Аўгустова. Яны не першы раз праводзяць свае выхадныя такім чынам і вельмі задаволены. Згадваюць, што летась на байдарцы даплыў да Гродна мэр горада Аўгустова і менавіта ягоныя ўражанні паўплывалі на тое, што Юстына и Марэк вырашылі паўтарыць гэтае падарожжа.

«*Мусім прызнаць, што на беларускім баку прырода на канале больш аўтэнтычная*», – кажа пан Марэк. «*Тут столькі птушак розных сустракаем, калі плывём, і краявідамі не можам налюбавацца*», – дадае пані Юстына.

Са слоў польскіх турыстаў, яны некалькі разоў спыняліся на водных стаянках, каб зрабіць здымкі і проста палюбавацца хараством прыроды. На іх думку, даволі зручна ўсталяваны месцы для адпачынку. Пра нязручнасці і недахопы госці імкнуцца нічога не казаць.

## Пакуль на паперы...

У дзень адкрыцця турыстычнага сезона на канале было шматлюдна, узніклі цяжкасці з паркоўкай машын. Адзіная стаянка побач са шлюзам «Дамброўка» можа ўмясціць у лепшым выпадку да паўсотні аўтамабіляў, а турыстычных аўтобусаў – яшчэ менш. Праўда, прыпаркаваць машыну можна ўздоўж дарогі і такім чынам не нашкодзіць прыродзе.

Адна з галоўных забаў турыстаў, якія прыязджаюць на канал у складзе груп, – катанне на цеплаходзе. Яшчэ летась прадпрыемства «Гроднамеліяводгас», якое займаецца эксплуатацыяй канала, прапаноўвала для прагулак на вадзе толькі адзін цеплаход змяшчальнасцю да 50 пасажыраў. Сёлета, паводле слоў генеральнага дырэктара «Гроднамеліяводгаса» **Барыса Багданца**, акрамя цеплахода «Нёман» з'явіцца яшчэ адзін – «Аўгустоў» – і тры судны, якія могуць змясціць ад 5 да 50 чалавек; дадасца пяць маторных лодак. І ўсе гэтыя судны будуць хадзіць па маршруце Беларусь–Польшча. Але пра гэта пакуль можна гаварыць толькі ў будучым часе.

Сярод паслуг, якія яшчэ прапаноўвае па прэйскуранце «Гроднамеліяводгас», чытаю: гадзінны фрахт за ўсё судна – 350 рублёў, кошт квітка на аднаго чалавека – 8 рублёў. Маторная лодка (паўгадзінная арэнда на трох чалавек) – 15 рублёў, гадзіна пракату катамарана – 8 рублёў, гадзіна катання на лодцы – 8 рублёў. Практычна ўсе сродкі плавання задзейнічаны.

Экскурсавод Лапеха дадае, што сёлета побач з Аўгустоўскім каналам праклалі новы міжнародны веласіпедны маршрут. Ён пачынаецца ў Польшчы пад назвай «Грын вела». Цяпер можна перасячы мяжу ў пункце пропуску «Лясная – Рудаўка» і працягнуць шлях да Гродна. Па маршруце ўжо ўладкавалі некалькі стаянак з альтанкамі, велапаркоўкамі і біяпрыбіральнямі. Ровары ў арэнду можна ўзяць на шлюзе «Дамброўка», але іх пакуль усяго толькі дзесяць.

Барыс Багданец кажа, што інфраструктура канала зараз у стадыі развіцця і з кожным годам дадаецца нешта новае. У прыватнасці, сёлета на беразе побач са шлюзам «Дамброўка» і ў вёсцы Чарток будуць працаваць тры гандлёвыя фірмы. Яны ўсталююць летнія кафэ з гарачым харчаваннем. Але гэта таксама толькі ў будучым, зараз паснедаць ці паабедаць на канале няма дзе.

«*Улады запланавалі зрабіць турыстычным цэнтрам пасёлак Сапоцкін, дзе будзе размешчана асноўная інфраструктура – гатэлі, рэстараны і іншае, а гэта літаральна ў трох кіламетрах ад канала,* – кажа Лапеха. – *І гэта, на мой погляд, вельмі слушна, паколькі ў Сапоцкіне ўжо існуе пэўная неабходная інфраструктура, а канал павінен захоўваць сваю аўтэнтычнасць, а не станавіцца месцам для гатэляў і рэстаранаў*».

Але пакуль у Сапоцкіне мясцовыя людзі нават і не чулі пра такія планы. Спадар Станіслаў распавёў «Народнай Волі», што нічога асаблівага ў іх мястэчку не адбываецца: працы няма, маладыя ездзяць на работу ў Гродна.

«*Няма ў нас ні рэстаранаў, ні гатэляў, нават прыбіральні грамадскай у Сапоцкіне няма*, – дадае яшчэ адна суразмоўца – пані Крысціна. – *Усё, пра што вы пытаецеся, гэта хутчэй на паперы, а калі да справы дойдзе – не вядома*».

Насамрэч, заўважае экскурсавод Лапеха, пакуль не развернецца інфраструктура ў Сапоцкіне з гатэлямі, рэстаранамі і бістро, на канале няма дзе паабедаць. А канал дзейнічае ўжо 13 гадоў.

Праўда, Барыс Багданец звяртае ўвагу на тое, што ў ваколіцах Аўгустоўскага канала 18 аграсядзіб, палова з якіх размешчана ўздоўж берага. Ва ўсіх выдатныя ўмовы для пражывання і вельмі прыстойная кухня. Ігар Лапеха з гэтым пагаджаецца, але лічыць, што для сярэдняга беларуса кошты ў іх завысокія і хутчэй разлічаны на замежных турыстаў.

Турыстам акрамя катання на цеплаходзе альбо байдарках прапаноўваюць пазнаёміцца з гісторыяй стварэння канала. Ёсць музей, у якім сабрана больш за 200 ілюстрацый з макетам шлюза і нават рыбалоўнымі снасцямі. Існуе асобны ваенна-экскурсійны маршрут, які ўключае абарончыя доты і фарты. Ёсць нават і прыватны музей на шлюзе «Нямнова», у якім можна знайсці шмат цікавых рэчаў, нават рыдлёўку, якую ў XIX стагоддзі выкарыстоўвалі пры будаўніцтве канала.

## Такога няма ва ўсёй Еўропе

На гэтую асаблівасць ужо гадамі звяртаюць увагу турысты і не толькі – няма прыстойных прыбіральняў. Адзін з экскурсаводаў распавядаў мне, што яшчэ некалькі гадоў таму, калі турыстаў было няшмат, заўсёды даводзілася выбачацца перад нешматлікімі наведвальнікамі за тое, што няма нармальных прыбіральняў. Зараз, калі турыстычныя хвалі нарастаюць, не ведаеш, як глядзець людзям у вочы, кажа спецыяліст.

«*Сістэма асенізацыі ў суседніх краінах на зусім іншым узроўні, і нам вельмі неабходна звярнуць увагу на гэту значную дэталь, якая падчас можа сапсаваць уражанне ад усяго ўбачанага*», – канстатуе экскурсавод.

Хаця ёсць і іншыя меркаванні. Паводле слоў літоўскага турыста спадара Ёнаса, для яго падобныя прыбіральні з'яўляюцца своеасаблівай атракцыяй.

«*Пабачыць такія прыбіральні ўжо немагчыма ні ў адной еўрапейскай краіне*, – сцвярджае спадар Ёнас. – *А ў вас, аказваецца, да ветру яшчэ можна хадзіць у лес*».

## Пра эканамічную мэтазгоднасць

Як ужо згадвалася, рэстаўрацыя Аўгустоўскага канала абышлася беларускай дзяржаве трохі болей, чым 15 мільёнаў долараў, – грошы ў маштабе краіны не самыя вялікія, але і не зусім малыя. Тым не менш нідзе ў публікацыях не сустрэнеш эканамічнага аналізу праекта.

Спадар Багданец таксама пазбягае лічбаў. Паводле яго слоў, па-першае, аднаўлена і эксплуатуецца ўнікальная больш як 100-кіламетровая водная артэрыя на тэрыторыі дзвюх краін.

Па-другое, канал знаходзіцца ў экалагічна чыстай зоне, дзе няма ніводнай вытворчасці. Месца з'яўляецца ўнікальным для адпачынку людзей. І, урэшце, аднаўленне канала цягне за сабой развіццё цэлага рэгіёна, турыстычнай і іншай інфраструктуры, што паступова станоўча ўплывае на навакольныя вёскі і мястэчкі.

Згодна з планамі, у межах зацверджанай схемы тэрытарыяльнай арганізацыі раёна Аўгустоўскага канала прадугледжана здзейсніць больш за тры дзясяткі інвестыцыйных праектаў. Але гэта пакуль толькі прадугледжана, а тэрміны іх не зацверджаны.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

### Даведка «Народнай Волі»

План па пабудове Аўгустоўскага канала належаў Францішку Друцкаму-Любецкаму. Праект быў цалкам распрацаваны ў 1824 годзе і канал узводзіўся пад кіраўніцтвам ваеннага інжынера Ігнацыя Прандзінскага. Будаўніцтва перапынялася і скончылася толькі ў 1839 годзе. На канале было 18 шлюзаў, мноства мастоў, запруд, службовых будынкаў.

Падчас Другой сусветнай вайны нямецкія войскі ўзарвалі тры шлюзы, каля дзясятка мастоў і восем плацін. Пасля заканчэння вайны польская частка канала была адрэстаўравана. Беларуская частка за доўгія гады ператварылася ва ўнікальную экасістэму.

У 2003 годзе Аўгустоўскі канал быў унесены ў Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі. Падрыхтавана дакументацыя для яго ўключэння ў Спіс аб'ектаў Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА.

Сёлета Аўгустоўскаму каналу спаўняецца 180 гадоў.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Пракурор папрасіў 4 гады калоніі

*Сёння ў судзе Заводскага раёна Мінска агалосяць прысуд былому галоўнаму ўрачу 1-й клінічнай бальніцы Мінска **Алегу ФАМІНУ**, у якога пры ператрусе аператыўнікі знайшлі каля 140 тысяч долараў у эквіваленце.*

Судовы працэс над медыкам пачаўся яшчэ 25 красавіка і з улікам святаў доўжыўся менш за тры тыдні. Шырокай агалоскі гэты працэс не атрымаў, у адрозненне ад інфармацыі пра затрыманне Фаміна. Як вядома, у ліпені мінулага года па Беларускім тэлебачанні былі паказаны кадры ператрусу па месцы ягонага пражывання, калі аператыўнікі знайшлі ў кватэры былога галоўнага ўрача каля 140 тысяч долараў у эквіваленце. Фаміна затрымалі за садзейнічанне ў арганізацыі закупак медыцынскага абсталявання для патрэб бальніцы. Увесь гэты час ён знаходзіцца ў СІЗА.

У судзе ж разглядаліся толькі тры эпізоды атрымання хабару на агульную суму 3 тысячы долараў. Алегу Фаміну выстаўлены абвінавачанні па ч.1 арт.430 і ч.2 арт.430 КК. Сваю віну ён прызнаў па ўсіх трох эпізодах, раскаяўся і кампенсаваў шкоду.

Што да канфіскаваных падчас ператрусу больш як 100 тысяч еўра, то Фамін заявіў у судзе, што гэта сямейныя назапашванні, грошы бабулі, ягонага бацькі, якія, маўляў, ляжалі ў адным месцы.

Дарэчы, у лютым таксама даволі хутка (на працягу паўтара тыдня) прайшлі судовыя слуханні па справе экс-дырэктара РНПЦ траўматалогіі і артапедыі, акадэміка **Аляксандра Бялецкага**, у якога летам 2018 года аператыўнікі канфіскавалі яшчэ большую суму грошай – каля 500 тысяч долараў у эквіваленце. У судзе ён заявіў, што знойдзеныя ў яго грошы – гэта таксама ўласныя зберажэнні і падарункі сяброў-бізнесменаў. Асудзілі Бялецкага за атрыманне хабараў на агульную суму 4 тысячы еўра і 3 тысячы долараў да 7,5 года турмы.

Справа яшчэ аднаго фігуранта, экс-кіраўніка «Белмедтэхнікі» **Аляксандра Шарака**, у якога ў гаражы аператыўнікі знайшлі каля 620 тысяч долараў у эквіваленце, у суд пакуль не паступіла.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

КРУПНЫЙ РАЗМЕР

# В России полковника ФСБ задержали за взятку в 850 тысяч долларов

*«Народная Воля» вспомнила, кто из белорусских чиновников по своим финансовым аппетитам переплюнул российского фээсбэшника.*

Полковнику ФСБ **Кириллу Черкалину**, который возглавлял Второй отдел управления «К», уже предъявили обвинения и оставили под стражей.

Российские средства массовой информации сообщили, что взятку он получил от бизнесмена, руководителя коммерческой фирмы, за общее покровительство.

Белорусский рейтинг взяточников выглядит так.

## 7 миллионов долларов

Эта взятка считается рекордной.

За благоприятное решение вопроса о предоставлении 20 гектаров земли в Минском районе для застройки под индивидуальное жилье руководителям Минского райисполкома предназначались 7 миллионов долларов. При передаче первой части суммы в размере 1,5 миллиона долларов злоумышленники были задержаны и в 2007 году осуждены на сроки от 6 до 9,5 года.

На скамье подсудимых оказались пять человек: режиссер по образованию, а по должности директор унитарного предприятия Александр Пашук, его подчиненный, ранее бывший коммерческим директором, Юрий Михайловский, Олег Жуковский, проходящий по делу одновременно в роли обвиняемого и пострадавшего, неработающий Николай Пенкрат и еще один директор унитарного предприятия Виктор Бобровник.

## 5 миллионов долларов

Белорусской фирме «Оксесинвест» выделили 279 гектаров земли возле Минского моря для строительства жилых домов. Однако что-то пошло не так, и директор предприятия Андреенко стал искать возможных покупателей на госземлю. Участками заинтересовалось ИООО «Бинком Плюс». Андреенко за благоприятное решение вопроса о продаже госземли попросил 5 миллионов долларов – для чиновников Миноблисполкома.

Сообщалось, что директора «Оксесинвеста» задержали в сентябре 2012 года как раз в момент передачи денег.

В апреле 2014 года Андреенко получил 5 лет усиленного режима с конфискацией имущества.

## 2,4 миллиона долларов

Экс-директор Могилевского вагоностроительного завода **Валерий Осипов** вымогал взятку в 936 тысяч долларов у одной китайской компании и в 1,5 миллиона долларов у второй.

В июне 2016 года Осипова задержали, а позже приговорили к 11 годам колонии усиленного режима с конфискацией имущества и запретом занимать управленческие должности в течение 5 лет.

## 1 миллион евро

Экс-руководитель концерна «Беллегпром» **Михаил Сучков**, еще будучи директором ОАО «Сукно», собирался получить такую сумму от представителей немецкой компании Convex International GmbH. За эти деньги Сучков должен был заключить с ними контракт на поставку оборудования стоимостью около 17,7 миллиона евро.

Правда, выплаты вознаграждения так и не дождался (компания только оплатила ему отдых в Испании и Германии на сумму более 2300 евро). Его задержали в феврале 2014 года.

Михаил Сучков получил 10 лет колонии усиленного режима с конфискацией имущества, штраф в 63 млн неденоминированных рублей и запрет занимать управленческие должности в течение 5 лет.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ИНИЦИАТИВА



# «Робім разам»

## Есть ли жизнь за МКАДом?

15 минут на маршрутке от станции метро «Малиновка» – и вы в Фаниполе, городе-спутнике Минска. Здесь немноголюдно, нет суеты, много зелени. Не удивительно, что многие минчане, устав от ритма большого города, перебираются жить сюда.

Среди них – и член кампании «Говори правду» Алексей Сыромолотов. Он переехал в Фаниполь больше 10 лет назад.

– Наш город постепенно превращается в один из микрорайонов Минска, – рассказывает Алексей. – А вот состояние дворов, тротуаров и зон отдыха, увы, гораздо хуже, чем в столице. Многие не ремонтировались десятки лет! Дворы домов №№38 и 40 по Комсомольской – не исключение. Разве мы, фанипольцы, заслужили это?

И Алексей Сыромолотов начал кампанию «Робім разам». Он хочет добиться, чтобы дворы его и соседнего домов были приведены в порядок.

Соседи целиком и полностью поддерживают инициативу.

– Гуляла я как-то во дворе с ребенком, и мне пришлось его чуть ли не выхватывать из-под колес едущей машины. И не потому, что водитель ехал слишком быстро. Просто он вынужден был объезжать ямы и колдобины, – говорит молодая мама Юлия.

– И я подпишусь! – говорит сосед Александр, владелец автомобиля. – По двору передвигаться просто невозможно: то днищем чуть ли не трешься, то со встречной машиной никак не разъедешься. Да и поставить во дворе авто совсем негде!



– А я как-то зимой вечером шла по тротуару вдоль дома. Так угодила в яму, упала и чудом не сломала ногу, – рассказывает пенсионерка Валентина Ивановна. – Подумать только: в нашем городе производятся поезда для России, Грузии, Венгрии, Норвегии, а дворы в таком состоянии! И смотрите: как наша железная дорога почти не получает продукцию «Штадлера», так и благоустройство обходит стороной наш город. Так что подпишусь обязательно! И сейчас еще соседей позову.

И вот команда «Робім разам» за три-четыре дня собрала под обращением подписи почти всех жителей домов №№38 и 40 по Комсомольской.

– У нас сложились конструктивные отношения с главой Фаниполя Владимиром Кореневичем, – рассказывает Алексей Сыромолотов. – Например, в октябре прошлого года мы вместе организовали городской праздник. Так что власти Фаниполя нашу инициативу, конечно же, поддержат. А вот окончательное решение – за властями Дзержинского района. Именно от них зависит, найдутся ли деньги на ремонт. Как только получу ответ, обсудим его вместе с соседями и решим, что делать дальше.

Но Алексей уверен, что в любом случае кампания «Робім разам» даст людям возможность поверить в свои силы, в то, что они, объединившись, смогут изменить свой подъезд, дом и даже город.

– Тем более что у нас есть истории успеха. Это и уже упоминавшийся городской праздник, и автобусный маршрут до Минска, и субботники, на которых мы приводим в порядок городской пруд.

**Андрей ИГНАТОВИЧ.**

**Более подробно об инициативе «Робім разам» вы можете узнать на сайте www.zapraudu.info.**

